№ 3-4 (55-56)
Январь 2009 г.

# Глуская ПАНОРАМА

Общественно-политическая газета

***16 лет назад в Глуске произошли события, которые в некоторых средствах массовой информации были названы «бархатной революцией». Голодовка, митинг протеста, создание районного комитета общественного самоуправления, попытка проведения районного референдума о доверии местной власти, создание районной организации БНФ... Все это было в 1992 году. Этим знаменательным событиям посвящается данный номер газеты.***

## ГЛУССКИЙ РАЙОННЫЙ КОМИТЕТ ОБЩЕСТВЕННОГО САМОУПРАВЛЕНИЯ

(продолжение)

### ПІСЬМО В. В. ВЯРЫГІ Ў РЭДАКЦЫЮ РАЙГАЗЕТЫ

(працяг)

Праўда, быў адзін маленькі прасвет у маім жыцці - набыў у г. Кішынёве міксер, але ці ен не вытрымаў нагрузкі, а, можа ад няправільнай, але частай эксплуатацыі выйшаў са строю і пасля гэтага (а карыстаўся я ім амаль год) пачаліся мае чорныя дні. Шукаў міксер заўсюды і ўсюды.

І вось даведваюся, што прыбылі міксеры «Віхор», вельмі добрыя міксеры. І вось сітуацыя - бачыць вока, ды зуб не дастаё. Прывезлі іх у гаспадарчы магазін, кажуць - на нарыхтоўкі. Ну, думаю, пытанне вырашана. Кожны год мяса здаю. Я да Шарко, а ён мне кажа, што аддалі міксеры па нарыхтоўшчыках. Я кажу: яшчэ ж не аддалі. Не, аддалі, - гаворыць. Я да нарыхтоўшчыкаў і даведваюся, што у спісах мяне няма, ды і на гэтую тэму, маўляў, са мной ніхто не гаварыў, з чаго выходзіць, што ў нарыхтоўчай канторы таксама калектыў «дружны».

Тады толькі першыя карабейнікі Глуска ехалі у Польшчу і там нашы міксеры таксама у цане. І ўсё ж набыў я сабе адзін міксер з гэтай партыі і вельмі ўдзячны чалавеку, які не нашкадаваў, паверыў у шчырасць маёй просьбы. Вельмі добры міксер, палякі там, напэўна, таксама вельмі ўдзячны глускім кіраўнікам і пастаўшчыкам эннай колькасці такой дэфіцытнай рэчы. Гэта яшчэ раз напамінае простым смертным аб такой прыказцы: «Кожны свярчок павінен ведаць свой шасток», якую нашы людзі семдзесят гадоў спраўна выконваюць.

Усе б нічога, ды вось у сувязі з дэфіцытам паявілася у мяне «прага» да алкаголю. Упершыню я сутыкнуўся з такой патрэбай, як гарэлка. Так яна патрэбна была мне, маёй маці і цешчы, што я з жахам падумаў, калі нават я маю патрэбу у гэтым зеллі, то які ж гэта мізер сто дзевяноста чатыры самагонныя апараты на раён! Восень патрабуе вельмі шмат спіртнога. Таму і добра, здавалася б, што такі прадукт даюць па спісах. Але па спісах гэта на першы погляд, надзейна, - я так думаў. Паколькі ўсюды чэргі, а мне яшчо да пенсіі далека, то спісы гэтыя, здавалася б, выхад з майго становішча на гарантаваны тавар.

Прыпісан я для атрымання гэтага прадукта у магазіне в. Калацічы. Прыходжу у ліпені - віно ўзяў, а гарэлкі няма, у жніўні — ні віна, ні гарэлкі, у верасні таксама і у кастрычніку. У лістападзе аддалі віно. Ну, вядома аддаў таму, у каго пазычаў, 16 бутэлек. Добра, што хоць людзі верылі, што аддам, як толькі атрымаў. А вось з гарэлкай справа гіблая. Заходжу па гэтай прычыне да Папкова, растлумачваю сітуацыю, чаму, маўляў, столькі месяцаў і ўсё іменна мне не хапае. Усміхаецца. І позу, і міміку мог бы толькі адлюстраваць народны артыст Петрасян. Не дась зманіць Ю. Ф. Былінскі, які сядзеў тут жа. Ды вось, гаворыць, не давозім - давязём. А калі?..

А тут так часта сталі ездзіць ў Гродна, Брэст, Польшчу, то, напэўна, не хутка яшчэ я атрымаю сваю гарэлку. Бедныя прадаўцы. Калі заходжу у магазін, чырвонай фарбай пакрываюцца і зноў гаворадь: «Не хапіла пасля чаргонай распрадажы гарэлкі». Я ім ахвотна веру, што у магазін не давезлі, таму як сам бачыў (калі нідзе не было гарэлкі), як пад'ехаў шафер Папкова, зайшоў у склад, узяў 6 бутэлек гарэлкі са скрыні (там яшчэ багата скрынь стаяла), паклаў у машыну і паехаў, а я хадзіў клянчыў, паказваючы паперку з сельсавета, што у мяне дзень нараджэння, і што на ўсіх гасцей, калі чаем паіць, цукру не хопіць. Так што, сам таго не жадаючы, я за 5 месяцаў не аднаго паляка забяспечыў гарэлкай, якая мне належала. Пры гэтым сам вымушаны шукаць у сувязі з тым, шго цукар дэфіцытны, а самагон з курынага памёту.

Так што вымалёўваецца такая карціна, што спісы і талоны таксама не для усіх гарантыя. Я памятаю ў нас выступал старшыня райвыканкама т. Шчэцька і запэўніваў не стварацьажыятаж па талонах: усе атрымаеце, толькі адразу, ведома ж, возьмуць усе хапугі. Вельмі ж доўга яны бяруць. Я і мая сям'я яшчэ

ніводнага талона на абутак не атаварылі, але босым хадзіць не будзеш, і прыходзіцца купляць на базары, хаця і па бешанай цане. Затое глускага абутку чамусьці ў Гродна вывозяць вельмі багата. Камісія правярала атавараныя талоны і быццам бы усё сышлося. Можа таму, што за талоны прадавалі замест шкарпэтак тапкі, а замест зімова-асенніх бот - валяльны і гумавы абутак.

Так, амаль не забыў, па такому выпадку яшчэ раз «аддзякаваць» Шарко ад імя элітарнага грамадства здатчыкаў мяса, ягад, грыбоў нарыхтоўшчыкам, за кантроль над размеркананнем такіх маляўнічых кофт, у якіх ходзяць самыя «лепшыя» здатчыкі нарыхтовак Глускага раёна. І, карыстаючыся выпадкам спытаць праз газету, хто сколькі здаў мяса і хто атрымаў за гэта якія аўтамабілі, і ці выдзяляліся для гэтага «Жыгулі»? А Вам, т. Шарко, не перашкодзіць такая реклама, таму што, напэўна, не апошняя будзе здзелка райзагa са здатчыкамі. І як па гэтаму поваду працавала і будзе працаваць камісія?

Не падумайце, далі бог, што я спрабую штосьці змяніць у жыцці «у руках усе трымаючых». Іменна бедная частка насельніцтва паступова ідзе да дна. Аб гэтым я даведаўся выпадкова два гады назад ад тагачаснага другога сакратара РК КПБ т. Шаўчэнкі, калі у нас на сходзе у калектыве стары начальнік уходзіў на пенсію, т. Шаўчэнка заявіў: «Шукайце сабе начальніка - у нас у раёне кадраў няма». Вось чаму ідзем і будем ісці да дна. Нерадзівых замяніць няма каму, будзьце задаволены тымі, якія есць. Сярод кіраўнікоў распаўсюджана п'янства, а якое рашэнне можа прыняць кіраўнік з пахмелля? Я чуў ад аматараў «зялёнага змія», што з пахмелля думаюць аб тым, як клін клінам выбіць. А калі ж тады думаць аб людзях, рабоце?

А вось зараз і аб «уладу трымаючых», г. з. савецкай уладзе. Не закрывайце вочы на такіх кіраўнікоў, таму што ўсё заваляць. У любым калектыве прыладжваюцца да начальства. Гэта толькі здаецца, што паважаюць, асабліва п'яніц. Тэму можна працягваць з указаннем непасрэдна асоб злоўжываючых і прывядзеннем фактаў разгільдзяйства. Але пакуль, здаецца, іх замяніць няма кім.

Можа многія падумаюць: якія такія кіраўнікі п'яніцы? І з юрыдычнага пункту гледжання яны будуць правы таму, што у міліцыю і на медыцынскі агляд вязуць толькі рабацяг і нам. загадчыкаў і то не ўсіх. Чым часцей будуць трапляць у міліцыю па п'янцы кіраўнікі, тым радзей туды будуць трапляць простыя рабочыя людзі. А пакуль усе у нас ідзе як у вядомым кінафільме: «Добрая работа, добры дом, машына, адданая жонка, што яшчэ патрэбна разгільдзяю, каб дажыць да пенсіі».

І ў заключэнне маленькі прыклад. Магазін в. Заполле Хваставіцкага сельсавета. Чамусьці туды ўсё заўсёды завозяць і па спісах усім хапае. У чым справа?

***В. ВЯРЫГА, жыхар в. Калацічы.***

***По настойванню аўтара і удзельнікаў мітынгу, які адбыўся 30 студзеня, пісьмо друкуецца без скарачэння і з захаваннем стылю.***

***«Радзіма» 7.02.1992***

## ИЗ МИКСЕРА РАЗГОРЕЛОСЬ ПЛАМЯ

Вчера в отдельно взятом Глусском районе началась «бархатная» революция под предводительством шофера Виктора Вериги.

А разгорелось пламя революционной борьбы в этом маленьком тихом поселке из-за недооценки продавцами магазина № 7 роли миксера в истории. Дело в том, что этот злополучный миксер очень понравился водителю Глусского цеха сжиженного газа Виктору Вериге и он, естественно, захотел приобрести нужную в хозяйстве вещь. Но не тут-то было. Оказывается, для таких, как он, миксер в магазине № 7 не продается. Возмущенный этим наглым поведением работников торговли, Виктор написал гневное письмо в местную газету «Радзіма». Однако редактор «районки» не счел нужным помещать творение внештатного автора на страницах издания. И тогда Виктор Верига вышел на главную площадь Глусска и объявил голодовку, требуя уволить продавцов магазина № 7 и заодно редактора районной газеты. Акция протеста привлекла широкое внимание жителей поселка. На площади собрался митинг в поддержку требований голодающего. Люди призвали районную власть, нако-




*Голодовка Виктора Вериги. День 1-й. 28.01.1992. Фото А. Юркевича.*

нец-то, навести порядок в торговле и еще — в жилищно-коммунальном хозяйстве. Председатель райисполкома Виктор Шетько с пониманием отнесся к проблемам и пожеланиям трудящихся — и немедленно созвал глусских начальников на разбор «полетов».

Чем это все закончится — пока не известно. Но революция в поселке еще продолжается...

***Николай Дебело***
***«Народная газета» № 20, 31.01.1992***

## «...ИЛИ Я СЕБЯ СОЖГУ!»

В Глуске на центральной площади расположился шофер В. Верига. Райисполком санкционировал его голодовку. Требования: освободить от работы продавцов магазина № 7 и редактора районной газеты «Радзіма», который не опубликовал заметку Вериги о произволе в торговле. Голодающий грозит, что повесится или сожжет себя.

***А. Датий***
***«На страже Октября» 31.01.1992 № 13***

## БУНТ ОДИНОЧКИ

Водитель глуского горгаза Виктор Вериго объявил трехдневную голодовку, пригрозил самосожжением. На площади, где обосновался бунтарь, выполненные от руки плакаты с требованиями: «Ликвидировать цензуру в районной газете», «Разогнать торговую мафию и местных бюрократов».

По предварительным данным, на этот поступок водителя толкнул отказ редакции опубликовать очередную обличительную заметку внештатного автора. Поскольку акция протеста совпала по времени с проведением областной сессии и руководство района в Глуске отсутствовало, об официальной реакции на этот демарш пока неизвестно. Но население отнеслось к Вериго сочувственно. Его снабжали теплой одеждой и угощали горячим чаем.

***Соб. инф.***
***«7 дней» № 5 27.01-2.02.1992***

## ПРОМЕТЕЙ ИЗ ГЛУБИНКИ

Площадь, расположенная напротив Глусского Дома Советов, давно не собирала столько зевак. Население райцентра влечет сюда диковинное зрелище: зимой на открытом воздухе голодает человек, прихвативший с собой канистру бензина. Не для обогрева. Самосожжения ради.

Именно такой мерой грозит властям водитель горгаза Виктор Вериго в случае невыполнения его требований. А добивается бунтарь-одиночка поистине революционных целей — свержения местных бюрократов, разгона торговой мафии и ликвидации цензуры, якобы имеющей место в районной газете.

В связи с тем, что руководство района по случаю областной сессии отсутствовало два дня в Глуске, официальной точки зрения на протест пока нет. Что касается побудительного мотива, то им, вероятно, послужил отказ редакции райгазеты опубликовать очередную обличительную заметку нештатного автора, коим Вериго являлся.

Впрочем, властям, критикуемым ныне справа и слева, вряд ли понравится такой демарш.

А вот население, снабдившее голодающего экипировкой зимовщика и чаем в термосе, явно симпатизирует потенциальному Прометею.

***Василий ЛЕВЧЕНКО***
***«Советская Белоруссия» 31.01.1992***

Сітуацыя

## АБ'ЯВІЎ ГАЛАДОЎКУ

Калі пісаліся гэтыя радкі, ішоў другі дзень галадоўкі вадзіцеля цэха звадкаванага газа Віктара Віктаравіча Вярыгі. Размясціўшыся насупраць будынка райвыканкома, ён у першы дзень вылучыў два галоўныя патрабаванні: пратэст супраць цэнзуры ў раённай газеце і самавольства ў гандлі. Значная частка насельніцтва падтрымала яго (асабліва, што датычыць гандлю) і паставіла свае подпісы ў сшытку. На наступны дзень, 29 студзеня, з'явіліся яшчэ іншыя плакаты.

У іх ужо былі выказаны больш шырокія патрабаванні, звязаныя са змяшчэннём з пасад некатоірых гандлёвых работнікаў і кіруючых асоб. 30 студзеня ў 11 гадзін дня Вярыга мяркуе завяршыць галадоўку.

У тым, што В. В. Вярыга галадае і збірае вакол сябе розны кантынгент людзей, пракурор раёна В. Д. Сувораў (у гутарцы з намі) не бачыць супрацьзаконных дзеянняў. Не дазваляецца зараз толькі праводзіць несанкцыяніраваны мітынг. У далейшым Віктар Вярыга збіраецца дзейнічаць па закону з тым, каб атрымаць дазвол на правядзенне мітынгу. Згодна палажэння «Аб парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый» яму неабходна падаць заяву ў выканаўчы камітэт па-



*Голодовка Виктора Вериги. День 1-й. 28.01.1992. Фото А. Юркевича.*


*Голодовка Виктора Вериги. День 1-й. 28.01.1992. Фото А. Юркевича.*

сялковага Савета не пазней, чым за 10 дзён да магчымай даты правядзення мітынгу. Выканаўчы камітэт павінен даць адказ у пяцідзённы тэрмін з моманту атрымання заявы. Даўшы згоду, неабходна забяспечыць належныя ўмовы для правядзення мітынгу.

У чацвер, 30 студзеня, на плошчы райцэнтра адбыўся мітынг жыхароў раёна, аб якім мы раскажам у наступным нумары газеты.

У нядзелю, 2 лютага, у 11 гадзін у кінатэатры «Арыён» абудзецца сход прадстаўнікоў працоўных калектываў.

***В. Чучвал.***

**Ад рэдакцыі: Як бачна, адзін з пунктаў сваіх патрабаванняў галадаючы адрасуе раённай газеце. Яно ўзнікла пасля таго, як В. Вярыга напісаў у рэдакцыю пісьмо, якое не ўбачыла свет на яе старонках. Дарэчы, Віктар пісаў у газету неаднойчы, і асобныя яго пісьмы былі змешчаны. Тым больш, што факты, аб якіх Вярыга напісаў, газетай ужо асвятляліся. Магчыма, не ў такім аб'ёме, але аб іх мы пісалі ў газеце, і неаднойчы. Мы самі стаім у чэргах за тымі ж таварамі, што і іншыя людзі, і адчуваем таварны дэфіцыт, як кажуць на ўласнай скуры. Газета пісала і аб глускіх карабейніках, якія вывозілі тавары з магазінаў у Польшчу, і нават друкавала іх прозвішчы, паведамлялася не раз аб шматлікіх парушэннях у гандлі, аб злоўжываннях службовых асоб райспажыўсаюза і пра іншыя факты. Тэматыка, можна сказаць, адна з найбольш распаўсюджаных на старонках газеты.**

**Пазіцыя ж журналістаў, як абысціся з тым ці іншым пісьмом, адпавядае Закону аб друку і статуту рэдакцыі газеты. В. Вярыгу у час гутаркі было растлумачана, што рэдакцыя свабодная ў сваім праве выбіраць, якія матэрыялы змяшчаць у газеце, а якія не. Аб гэтым гаворыцца і ў адным з пунктаў яе статута. «Рэдакцыя самастойна вызначае лёс пісьмаў, якія паступаюць у газету, і выкарыстоўвае толькі тыя з іх, якія прадстаўляюць для яе цікавасць. Іншыя пісьмы накіроўваюцца для разгляду ў адпаведныя дзяржаўныя і гаспадарчыя органы, грамадскія арганізацыі (аб чым паведамляецца іх аўтарам) або спісваюцца ў рэдакцыйны архіў. Паступіўшыя рукапісы не рэцэнзіруюцца і не вяртаюцца».**

**Усе гэта было растлумачана В. Вярыгу, калі ён, атрымаўшы наш адказ, прыйшоў у рэдакцыю з прэтэнзіяй, чаму яго пісьмо не надрукавалі. І па сённяшніх падзеях відаць, што нашы тлумачэнні яго не задаволілі. А шкада. Сваім пратэстам супраць раённай газеты ён на нейкі момант здолеў змяніць у асобных людзей адносіны да раёнкі. І мы вырашылі расказаць, чаму Віктар Вярыга выступае з абвінавачваннямі ў адрас газеты.**

**Што датычыць у далейшым нашых адносін да пісьмаў, якія прыходзяць у рэдакцыю з просьбамі (адрамантаваць тэлевізар, халадаільнік, радыё, са скаргамі, што камусьці не хапіла ў магазіне таго ці іншага тавару і гэтак далей), то просім аўтараў лепш адразу пісаць у адпаведныя інстанцыі, каб рэдакцыя не выступала ў ролі нейкага пасрэдніка ці перавалачнага пункта. І з кожным пісьмом будзем паступаць так, як лічым неабходным - друкаваць яго ці адпраўляць у архіў. Вядома, пісьмы на сацыяльна значымыя тэмы і ў абарону інтарэсаў малазабяспечаных людзей мы не пакінем без увагі.**

***"Радзіма" 1.02.1992***

ГАЛАДОЎКА ЛЯ П'ЕДЭСТАЛА
Рэпартаж у нумар

## ГЛУСК ЯК ЛЮСТРА НОВАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Ён сядзеў на цэнтральнай плошчы пад помнікам Леніну. Цёпла апрануты, укутаны коўдрамі. Побач стаяў тэрмас, пэўна, з чаем. На выгляд малады чалавек галадаў. Ужо трэція суткі.

Гэтаму «сядзенню» папярэднічала заява на імя старшыні райвыканкома В. У. Шчацько. Змест яе прыводзім поўнасцю, без рэдакцыйных правак, бо аўтар заявы, як потым высветлілася, наогул катэгарычна супраць рэдагавання ім напісанага.

«...Прашу дазволіць і не перашкаджаць мне у правядзенні трохдзённай галадоўкі з 11-00 28 студзеня 1992 года па 11-00 30 студзеня 1992 года. Таму што больш трох дзён я галадаць не змагу, проста не ведаю, як так могуць галадаць па цэламу месяцу. І пасля невыканання маіх патрабаванняў, г. зн. 30 студзеня, у 12-00 я скончу жыццё самагубствам. Галадоўку буду праводзіць на плошчы каля помніка У. І. Леніну - смерць прыму тут жа.

Просьба не ратаваць. У сілу рашучасці свайго характару скончу з сабой нават раней, калі буду бачыць, што мае патрабаванні не рашаюцца. Але нават так пастараюся дацягнуць да 30-га, дня свайго нараджэння. Далей так жыць пазбаўленым сваіх правоў я не жадаю.

Далоў цэнзуру у мясцовай газеце у асобе рэдактара. Пісьмо, адрасаванае Н. Б. Сандамірскаму (намеснік рэдактара - В. К.), не было яму нават паказана. На мае патрабаванне надрукаваць я атрымаў адмову з надуманай фармулёўкай. Патрабую надрукаваць мае пісьмо, і няхай людзі нас рассудзяць. Мяне пазбавілі слова і пры гэтым гавораць аб яго свабодзе.

2. Прыняць меры да звальнення прадаўцоў магазіна в. Калацічы

за тое, што не спраўляюцца са сваімі абавязкамі і нагнятаюць нестабільную абстаноўку сярод насельніцтва. Не даючы і не дадаючы належачых па спісу прадуктаў насельніцтву. Ад скаргаў і заяў на дрэннае абслугоўванне ніякай рэакцыі. Даводзіцца належачае па нормах водпуску вырываць са скандалам. А некаторыя нават праз 6 месяцаў узяць свае не маюць магчымасцей. І гэта ідзе гаворка аб гарантаваным тавары, а што ж гаварыць аб астатнім. Колькі хаця б за 1991 год было прададзена насельніцтву в. Калацічы мукі для корму жывёлы. І для даведкі падніміце дакументы, колькі ўсяго прададзена ўсялякага тавару у в. Сялец, там жа 25 двароў, а у Калацічах? Што ж яны, гэтыя прадаўцы, робяць за прылаўкам? Я прыйшоў да свайго рашэння не проста так, я хадзіў да Папкова (старшыня райспажыўсаюза - В. К.), дарэчы, там пры маёй гутарцы прысутнічаў і Былінскі Ю. Ф. (былы сакратар райкома партыі, цяпер дырэктар малога прадпрыемства - В.К.). Пасля гэтага звярнуўся у газету - і вось замкнутае кола. Ці не таму зараз у нас такое адбываецца, што людзі сядзяць не на сваіх месцах. І ўсё ж я веру, што можа быць, хоць пасля маёй смерці што-небудзь зменіцца у раёне. Можа, узнімуцца людзі і ўсё пастаяць на свае месцы. Дзеля гэтага я гатоў памерці. У сілу свайго характару не магу я жыць на каленях. Да гэтае пары у мяне не атаваранparam талоны на абутак, цэлыя і «візіткі», але «візіткі» - ладна, ніхто не вінаваты, што я працую па 10 гадзін і не знаходжу часу таўкацца у чэргах, тым больш начаваць ля магазіна. За ўсё пераплочваць даводзіцца ўсім і вось парадокс: беззаконне мы усе узводзім у закон. Ці не таму мы за любы тавар з-пад прылаўка плоцім у некалькі разоў даражэй, што мы гэтыя лішнія сотні і тысячы сумленна не зарабілі? А пакутуе просты народ, у якога няма лішніх грошай».

Вось такую заяву напісаў 33-гадовы шафер мясцовага гаргазу Віктар Віктаравіч Вярыга.

Па-рознаму да яе можна ставіцца. Можна сцвярджаць, што, акрамя патэтыкі і агульных фраз, у ей нічога няма, што прычыны, па якіх чалавек, бацька дваіх малалетніх дзяцей, вырашыў памерці - а у дзень свайго нараджэння ён намеціў публічна спаліць сябе, нават ёмістасць з бензінам побач увесь час стаяла - мізэрныя, нязначныя, што рашэнне непрадуманае. Што у такім становішчы пры нястачы у магазінах апынуліся усе жыхары раёна.

Аднак тое, што Вярыгу падтрымалі шматлікія глусчане, што на мітынг, які афіцыйна хацелі назваць нарадай, - хаця ад назвы сутнасць не мяняецца - сабралася больш за паўтысячы чалавек, гаворыць за тое, што у людзей набалела.

Выходзіць, справа тут не у Вярыгу асабіста. На яго месцы мог аказацца любы незадаволены - і рэакцыя была б тая ж, бо нарыў наспяваў і павінен быў лопнуць. Гэта відаць і па тым, як разгортваўся канфлікт.

Калі Вярыга прыйшоў і сеў на галадоўку пад помнік, шматлікіх лозунгаў у яго не было. Яны пачалі з`яўляцца потым, калі да яго з салідарнасцю далучыліся людзі. І патрабаванні набылі канкрэтнасць і акрэсленасць: зняць з займаемых пасад тых, кто адказвае за размеркаванне тавараў - намесніка старшыні райвыканкома Л. А. Клыга, старшыню райспажыўсаюза Р.Е. Попкова, яго намесніцу па гандлю А.С. Аўчыннікаву. Апошнюю на мітынгу называлі «Міс Польшча» - за частыя ваяжы у суседнюю краіну... Дасталося і іншым кіраўнікам раённых службаў - за асабістую нясціпласць, будаўніцтва асабістых дач і катэджаў, за пазачарговае набыццё аўтамабіляў і іншых дэфіцытаў, за...

Але, як заўсёды бывае на мітынгах, больш гаварылі, чым слухалі, больш выстаўлялі прэтэнзіі, чым вырашалі праблемы. Ды і ці можна іх вырашыць, калі мітынговая дэмакратыя часцей за ўсё адвяргае закон, калі тут пануе не цвярозы сэнс, а амбіцыі і аднахвілінныя настроі. Таму рэдакцыя «МП» і не збіраецца тут расстаўляць акцэнты у ацэнках дзеянняў асоб, імёны якіх гучалі на мітынгу. Разбяруцца.

На гэтай хвалі выплыла і абвінавачванне у зажыме дэмакратыі і свободы слова рэдактару райгазеты Т. А. Матусевіч. Не дапамагалі ні тлумачэнні, якія атрымаў В. Вярыга, чаму не надрукавалі яго пісьмо, ні спасылкі на Закон «Аб друку і сродках масавай інфармацыі», у якім запісана: «Ніхто не мае права абавязаць сродак масавай інфармацыі надрукаваць адхілены рэдакцыяй матэрыял, калі



*Голодовка Виктора Вериги. День 2-й. 29.01.1992. Фото А. Юркевича.*

іншае не прадугледжана законам».

Пішу аб гэтым не для таго, каб неяк выгарадзіць калег з Глуска, а ў пацвярджэнне факту, што шмат на мітынгах павярхоўнага, наноснага, якое часам выдаецца за найвышэйшы закон - волю народа. Аднак тое, шго ў самым закутку Магілёўшчыны, на ціхай да гэтае пары Глусчыне прагучаў гэты народны голас, - падзея значная і наводзіць на глыбокія роздумы.

Раней улады нібы і ганарыліся, што вяскоўцы не мітынгуюць, ім, маўляў, не да гэтага, працаваць трэба. Цяпер і гэты козыр аказваецца бітым: ускраіны падаюць голас. Ёсць і яшчэ адна своеасаблівасць. Яшча год назад шумныя мітынгі і дэманстрацы у буйнейшых гарадах вобласці не патрабавалі ні хлеба, ні тавараў. Вялася у асноўным барацьба за ўладу, за месца у Саветах, у выканкомах, ганьбілі камуністаў, абвінавачваючы іх ва усіх смяротных грахах. Цяпер жа - і гэта наглядна прадэманстраваў Глуск - людзі змагаюцца за матэрыяльныя даброты. Змагаюцца пакуль мірнымі метадамі. Пакуль?


*Митинг на площади. Выступает А. Фастовец. Слева от него - Е. Овчинникова и Л. Клыга. Справа - В. Щетько и О. Шумовская. 30.01.1992. Фото А. Сергеева.*

Прыгадваючы вядомую талстоўскую метафару пра дубіну народнай вайны і пра яе аўтара, якога у свой час Ленін назваў люстрам рускай рэвалюцыі, міжволі падумваеш, ці не новае люстра новай хвалі новай рэвалюцыі з'явілася у палітычнай рэчаіснасці? Пакуль урады дзеляць суверэнітэты, пакуль упіваюцца самастойнасцю і незалежнасцю, пакуль парламенты мадэрнізуюць сцягі і гербы, усталёўваюць дзяржаўныя мовы і абараняюць культуры, народ пакрысе пачынае патрабаваць, яшчэ не хлеба, але і не відовішчаў, а нечага матэрыяльнага, што б у неразбярысе цэн і палітык хаця б неяк змякчыла жабрацкасць яго існавання.

...Улічваючы, што пастаўленыя ім прэтэнзіі шырока абмеркаваны, Вярыга ад самаспальвання адмовіўся, галаданне спыніў. Прынята і кампраміснае рашэнне аб стварэнні камісіі, якая дэталева разбярэцца у праблеме рэалізацыі тавараў насельніцтву, злоўжываннях у гэтай справе. Нібыта пажар сцішыўся. Ці надоўга?

***В. КУБЕКА.***

***«Магілёўская праўда» № 18, 1.02.1992***



*Митинг на площади. 30.01.1992. Фото А. Сергеева.*

## І БОЛЬ, І АБУРЭННЕ

У мінулым нумары раённая газета паведамляла аб праведзеным акце галадоўкі ля помніка У. І. Леніну ў райцэнтры вадзіцеля цэха звадкаванага газу В. В. Вярыгі. Падштурхнула яго на гэтую акцыю неапублікаванне ў раёнцы дасланага ім пісьма. Але гэта толькі прычына, следства ж — няўвага кіруючых работнікаў раёна да патрэб жыхароў, недахопы ў гандлі, выкарыстанне службовага становішча ў карыслівых мэтах, аб чым ужо неаднаразова пісала газета. Толькі вось меры да парушальнікаў прымаліся даволі мяккія.

30 студзеня выканком раённага Савета народных дэпутатаў намеціў правесці ў кіінатэатры «Арыён» сход працоўных, каб выслухаць іх прэтэнзіі і адказаць на ўзнікшыя пытанні. Але народу сабралася столькі, што не хапіла б для яго і трох залаў, такіх, як кінатэатр. Сход перанеслі на плошчу, і ён перарос у мітынг.

З трыбуны ля помніка Леніну мы многа гадоў запар у святочныя дні чулі ўзнёслыя словы, працоўныя рапарты і здравіцы «ў гонар нашых перамог». І, мабыць, упершыню з гэтай трыбуны мы пачулі словы праўды. Цярпенне ў народа лопнула і ён выказаў на мітынгу ўсё тое, што накіпела на сэрцы.

Так, пісьмо В. В. Вярыгі не было апублікавана па прычыне, ўжо вядомай нашым чытачам. (У наступным нумары газеты яно будзе змешчана). Асобныя кіруючыя работнікі раёна і райспажыўсаюза шмат бы аддалі зараз, каб яно ў свой час убачыла свет, каб не адбыўся гэты мітынг, які закляйміў недальнабачную дзейнасць пасадавых асоб. Але ў такім выпадку гэтую публікацыю напаткаў бы той жа лёс, як і дзесяткі іншых, змешчаных у газэце: пачыталі, адмахнуліся, і ўсё ішло б паранейшаму. Цяпер жа гэтага не здарыцца — народ патрабуе перамен і яны, відаць, адбудуцца.

Дарэчы, аб гэтым гаварыў на мітынгу Г. Г. Грыгор'еў. Ён назваў дзесяткі матэрыялаў, падрыхтаваных супрацоўнікамі рэдакцыі ў мінулым годзе аб недахопах у гандлі, крадзяжы і карупцыі. І што гэта дало? — ставіць пенсіянер пытанні. — Якія меры прыняты, хто і якое панёс пакаранне?

В. С. Шумоўская абуралася тым, што прадаўцы многіх магазінаў працуюць у неймаверна цяжкіх умовах, цеснаце і холадзе, але ў райспажыўсаюзе не знойдуць сродкаў, каб адрамантаваць іх, расшырыць або пабудаваць новыя. Затое знаходзяцца сродкі на будаўніцтва катэджаў для старшыні праўлення райспажыўсаюза Р. Е. Папкова і яго дзяцей, на будаўніцтва адміністрацыйнага будынка. Называліся і многія іншыя прозвішчы «актыўных забудоўшчыкаў» за казённы рахунак, нячыстых на руку загадчыкаў магазінаў і аддзелаў. І што гэта за заганная практыка, уведзеная яшчэ здаўна, калі ў пасадавыя крэслы садзяць людзей, запрошаных з Кіраўска, Клічава і іншых гарадоў вобласці? Чаму іх спачатку зацвярджаюць у вышэйстаячай інстанцыі, а потым «выбіраюць» на месцах?

— Я ганаруся тым, што наша школа выхавала такога чалавека, як В. В. Вярыга, які здолеў сёння сабраць нас на гэтай плошчы, — гаварыла настаўніца СШ № 1 Д. Р. Руднік. — У нашым раёне вырасла нямала знакамітых людзей, але чамусьці з нашага асяроддзя мы не можам выбраць людзей на кіруючыя пасады ў сваім раёне.

Дзіна Рыгораўна прапанавала стварыць у раёне фонд абароны самых малазабяспечаных людзей — ветэранаў вайны, пенсіянераў, інвалідаў, аб сённяшнім, цяжкім лёсе якіх гаварылі на мітынгу таксама П. І. Бруевіч, маці воіна афганца Л. Курылава і іншыя.

Нельга прамаўчаць і пра тых, з-за каго разгаірэўся ўвесь гэты людскі пажар незадаволенасці. Тыя, хто сабраўся на плошчы, выказалі горкія словы праўды старшыні райспажыўсаюза Р. Е. Папкову, яго намесніку А. С. Аўчыннікавай, намесніку старшыні райвыканкома Л. А. Клыга. Спрабавалі з натоўпу абвінаваціць і старшыню райвыканкома В. У. Шчэцьку. З трыбуны ж сур'ёзных абвіаавачванняў у яго адрас не прагучала. Наадварот, дырэктар СШ № 3 М. С. Курадавец выказаў прыкладна такую думку: «У тым, што сёння адбываецца, не бачу прамой віны старшыні райвыканкома. А вось акружэнне яго...»

І няхай у гэты дзень не было (бо такога не дазваляе закон) прынята канкрэтных мер да вышэй указаных асоб, затое людзі змаглі выказаць набалелае, што капілася ў душы кожнага доўгі час.

***В. ЧУЧВАЛ, С. АНТАШКЕВІЧ.***
***«Радзіма» 5.02.1992***

## СТВОРАН ГРАМАДСКІ КАМІТЭТ

Сход пайшчыкаў раёна, які адбыўся ў мінулую нядзелю ў кінатэатры «Арыён», праходзіў пры поўнай зале.

Пытанні, якія выносіліся на абмеркаванне актуальныя для нашага раёна:

1. Утварэнне грамадскага камітэта па расследаванню злоўжыванняў службовым становішчам адказных работнікаў райвыканкома і службовых асоб раёна.

2. Арганізацыя і правядзенне канферэнцыі поўнапайшчыкаў па пытаннях змяшчэння з пасады старшыні праўлення райспажыўсаюза Папкова Р. Е. і яго намесніка Аўчыннікавай А. С. і выбары новых кіраўнікоў.

3. Разгляд пытання аб адкліканні дэпутата райсавета Папкова Р. Е.

4. Аб хадайніцтве перад пасялковым Саветам аб арганізацыі і правядзенні сходу грамадзян па месцы жыхарства аб перавыбарах загадчыкаў магазінаў, якія дыскрэдытавалі сябе ў вачах грамадскасці.

5. Аб хадайніцтве перад выканкомам райсавета аб унясенні на разгляд



*Собрание пайщиков в кинотеатре «Орион». 2.02.1992. Фото В. Медведева.*



*Президиум собрания пайщиков в кинотеатре «Орион». Слева направо: Н. Молокович, И. Кирин, М. Подлужный, В. Верига, А. Фастовец, В. Щетько. 2.02.1992. Фото В. Медведева.*

нечарговай сесіі пытання аб зняці з займаемай пасады намесніка старшыні райвыканкома Клыга Л. А.

Кожнае пытанне было пастаўлена на абмеркаванне. Выступаючыя выказвалі недавер вышэй пералічаным кіруючым работнікам і ўносілі свае канкрэтныя прапановы. Некаторыя з іх прадстаўлялі грамадскую значнасць і могуць служыць далейшым арыенцірам у рабоце камітэта. У прыватнасці, В. С. Шумоўская прапанавала ў кожным аддзеле магазінаў аформіць стэнд «Сёння ў продажу», вітрыну ўноў паступіўшых тавараў. На яе думку, работу гандлю павінна кантраляваць незалежная камісія пайшчыкаў. Што датычыць Папкова і Аўчыннікавай, то іх прапанавана не толькі звольніць з пасады, але і пазбавіць права работы ў гандлі. Прапанова Т. І. Булка з Слаўкавіцкай СШ датычыла прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў (у тым ліку і гандлёвых кропак). Продаж іх, на яе думку, неабходна ўзяць пад асобы кантроль. Наконт стварэння камісіі па барацьбе з карупцыяй (у розных варыянтах выступаючыя яе называлі па-рознаму) М. П. Малаковіч сказаў, што гэта павінна быць камісія ўпаўнаважаных ад працоўных калектываў пры райвыканкоме. Гучала з трыбуны і яшчэ шмат прапаноў, якія, безумоўна, будуць улічаны ў рабоце камітэта. Сутнасць іх зводзілася да барацьбы са злоўжываннямі ў сферы гандлю. Згодна павесткі дня выносіліся на галасаванне пастаўленыя пытанні. Па ходу сходу прапаноўваліся кандыдатуры ў склад грамадскага камітэта. Дарэчы, туды ўвайшлі амаль тыя, хто выступіў з трыбуны, і ніводнай кандыдатуры з зала.

1. Руднік Д. Р. - настаўніца СШ № 1.
2. Дзьякава Л. І. - пенсіянерка.
3. Шумоўская В. Ф. - пенсіянерка.
4. Вярыга В. В. - вадзіцель цэха звадкаванага газу.
5. Кірын І. М. – дырэктар раённага Дома піянераў і школьнікаў.
6. Фалецкі Я. Р. – механік рэфрэжэратарнага поезда г. Маладзечна (працуе вахтавым метадам).
7. Фаставец А. М. - дырэктар малога прадпрыемства «Казловічы».
8. Бабічаў Л. І. - зваршчык калгаса «Зара камуны».
9. Грабко У. М. – шавец камбіната бытавога абслугоўвання.
10. Пятрэня М. М. - вадзіцель мэблевай фабрыкі.
11. Нікіцін М. Б. - электрамеханік раённага вузла сувязі.
12. Басалыга Я. А. - вадзіцель эксбазы «Глуск».
13. Брэус С. Р. - настаўніца Макавіцкай СШ.
14. Малаковіч М. П. - загадчык бойні каапнарыхтоўпрому.

Мяркуецца ў далейшым у састаў камітэта ўключыць таксама прадстаўнікоў працоўных калектываў пасёлка і раёна. Такую думку выказалі асобныя выступаючыя.

Астатнія пытанні павесткі дня былі пастаўлены на галасаванне і прыняты пры поўнай падтрымцы. Што ж, застаецца толькі чакаць першых вынікаў сумленнай (як было запэўнена на сходзе) работы камітэтчыкаў. Час пакажа.

***В. НОВІКАВА.***
***«Радзіма» 5.02.1992***

*Продолжение следует.*

**ОБЪЯВЛЕНИЕ**

Если вас необоснованно уволили с работы, задержали выплату зарплаты, отказали в рассмотрении обращения, если нарушили ваше право, установленное Конституцией и законами – обращайтесь в общественную приемную Белорусского Хельсинкского Комитета.

Контактный телефон: 41522 (Игорь Кирин)



*Желающих регулярно получать «Глускую панораму» просим сообщить об этом в редакцию газеты.*

№ 3-4 (55-56) Январь 2009 г. Глуская ПАНОРАМА

*Общественно-политическая газета.*
*Выходит с июля 1998 г. Редактор - Игорь Кирин.*
*Адрес для писем: 213879, г.п. Глуск, ул. Кирова, 43-18.*
*Тираж - 150 экз. Тел. 41522. E-mail: glu-cl@mail.ru*
*http://www.gluskonline.net*